# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.





№ 4 (103) Vilnia, Krasavik 1937 h. Hod IX.

# HRAMADZIANE!

Nia raz my ŭžo pisali ab patrebie biełaruskaje presy, nia raz užo prasili ŭsich raspaŭsiudžvać svaje biełaruskija časapisy i akuratna apłačvać za ich padpisku. Z pryjemnaściu možam ścvierdzić, što šmat chto adhuknuŭsia na naš zaklik i pasilna nam pamahaje ŭ ciažkoj pracy. Ale kolki-ž, nažal, jašče jość u nas ludziej, jakija anijak nia mohuć ci nia chočuć zrazumieć taho, što tak prostaje i jasnaje, dy ŭściaž z padpiskaj ściahvajuć, abo abiacajuć jaje apłacić i paśla nie datrymlivajuć słova.

Voś-ža ŭsich daŭžnikoŭ jašče raz prosim nieadkładna apłacić naležnuju nam za „Šlach Moładzi“ padpisku, bo inačaj ad nastupha numaru vysyłku časapisu budziem strymlivać.

*Administracyja „Šlachu Moładzi.“*

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К. к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F. f — Ф, ф. | M, m — М, м. | W, w, V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I. i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Красавік 1937 г. № 4 (103).

*Максім Танк*

## АРЛІНЫ

Там, дзе берагам стромым
стаяць гораў грамады,
там, дзе пеняцца громам
бурных рэк вадаспады, —

клічаць грані вяршынаў
кінуць сум і зьнясільля,
каб палётам арлінfamым
разьвярнуліся крыльля!

Кіпцюры на граніце
адвастрыць, каб стальныя,
сілай сонца напіцца,
горда выпрастаць шыю!

Разам з бурнай лявінай
рынуць з горных аркадаў,
ў бой магучы арліны
пад напеў вадаспадаў.

Вільня, 17.IV.36 г.

*С. Гаротны*

## БРАТУ

Брат, не драмлі!
Чуеш, як звоніць рытмічна наш крок
ў паходзе да сонечных дзён!?
Брат прагані
з сваіх воч змору-сон.
Маланкай хай зьяе твой зрок!
Дзён сьветазарных
у далях ўжо тлеюць агні.
Брат, не драмлі!
У шэрангах бунтарных
месца займі!
Чуеш, як гімн наш у прасторы нясецца —
гімн адраджэньня зямлі?...
Нас зоры вітаюць, нам сонца сьмяецца...
Брат,
не драмлі!..

# Вясьняныя клопаты

Ня гледзячы на тое, што вясну ўважаем за найпрыгажэйшую і найбольш радасную пару, усё-ж нясе яна нам многа розных клопатаў. Шукаць іх далёка ня трэба. Вось селянін наш выгортваючы астаткі збожжа з скрыняў, пацiскае на жываце мацней пояс, ды думае як гэта дацягнуць да новага хлеба. Ідзе на палоскі, на вузкія касьнікі, і сэрца кроўю заліваецца з роспачы. Што рабіць, як на іх жыць, дзе што садзіць і сеяць. Растуць сыны, дочкі — работы няма, а гаспадаркай дзяліцца далей ужо ня можна. Усё гэта найбольш і найцяжэй адчуваецца вясной, калі пасьля зімовага перарыву прыходзіцца на нова брацца за работу. І дзеля гэтага вясной, як ніколі можа, адчуваецца на вёсцы патрэба зямельнае рэформы, патрэба ўляпшэньня і расшырэньня сялянскіх гаспадарак, бо людзі фармальна задыхаюцца.

З надыходам вясны, побач з пытаньнем працы для моладзі, стаіць клопат адзежы і ўбіраньня. Важны ён асабліва для дзяўчат. І трэба сказаць, што справа ўбораў апошнімі часамі прыймае ў нас застрашаючыя формы і разьмеры. Адны перад другімі ўцягваюць на сябе што-раз больш рознае тандэтнае крамніны, руйнуючы на гэта няраз гаспадаркі. Адначасна свае тканіны аддаюцца за бязцэн месту, каторае гэтымі-ж матарыяламі фарсіць. Уборы ў крамніну, розныя ядвабы і лякеры на вёсцы гэта проста нейкая зараза, з якой трэба змагацца, прапагуючы свой нацыянальны беларускі самадзялковы строй, які ёсьць вельмі прыгожым, для ўсіх даступным і карысным. Падобную акцыю вядуць цяпер бадай усе народы. А важная яна для нас як з пункту гледжаньня нацыянальнага, так і з пункту чыста гаспадарча-эканамічнага. Бо першае: нацыянальным уборам дэманструем мы сваю аддзельнасьць і самабытнасьць, а другое: ня купляючы крамніны ідзём да самавыстарчальнасьці і роўнаважым свой бюджэт згодна з прынцыпам „як найбольш прадаваць, а як найменш купляць“.

Для хлапцоў, якія скончылі 21 год, набліжаецца клопат службы ў войску. — Служба ў войску гэта абавязак наложаны дзяржавай на кожнага здаровага мужчыну і ўцяканьне ад яго моцна караецца. Але не аб гэта нам ходзіць. Ходзіць нам тут аб тое, каб беларусы йдучы ў польскую армію падчырківалі сваю нацыянальнасьць, каб перад вайсковай камісіяй адважна заяўлялі, што мы беларусы і пасьля ў войску ад беларускасьці не ўцякалі. Гэта на першы пагляд справа вельмі малая, аднак значэньне яе вельмі вялікае. Бо мы, будучы грамадзянамі Польскае Дзяржавы, спаўняючы адносна яе ўсе абавязкі, дамагаемся належных нам правоў, дамагаемся, каб нас бралі пад увагу, каб з намі лічыліся. Пры тым усё гэта ня йдзе нам лёгка...

А калі так, *дык мусім на кожным кроку падчырківаць сваё нацыянальнае беларускае „я“ і тое, што мы робім для дабра дзяржавы.*

Гэтым самым, бязумоўна, моцна будзем сабе памагаць у сваіхжа дамаганьнях роднае беларускае школы, зямельнае рэформы, ды агулам у нашай беларускай адраджэнскай працы.

*Я. Н.*

■

# *ГРАМАДЗЯНЕ!*

*Сёлета 23-га лютага мінула 15-цаць год ад таго часу, калі ў Вільні расстаўся з гэтым сьветам, наш пісьменьнік, Антон Лявіцкі — Ядвігін Ш.*

*Як усім ведама, Антон Лявіцкі праз цэлае сваё жыцьцё, пачынаючы ад малых дзён, цесна быў зьвязаны з беларускім адраджэнскім рухам. Ён быў адным з тых, што тварылі „Нашаніўскую пару.“ Ён арганізаваў першы гурток беларускае студэнцкае моладзі ў Маскве, яшчэ ў XIX стагодзьдзі. Пісаў у „Нашай Долі,“ „Нашай Ніве,“ „Biełarusie,“ „Лучынцы,“ „Сасе,“ „Беларусі“ і іншых беларускіх часапісах. Выступаў на розных беларускіх мітынгах, сходах, зьездах, быў сябрам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. За грамадзкія справы цярпеў у царскім вастрозе на Бутырках. Ня меў ён, праўда, выразнага палітычнага аблічча, але ў меру сваіх слабых фізычных сілаў усьцяж і заўсёды працаваў для дабра Беларускага Народу. Ён чулай душой адчуваў, а мастацкім пяром апісаў і выявіў душу беларускага селяніна, ягоную шчырасьць і дабрадушнасьць. Ядвігін Ш. быў першым беларускім прозаікам. А сяньня... Сяньня гэты пачынальнік беларускае прозы, чалавек, які цэлае жыцьцё пасьвяціў беларускай справе, аўтор шматлікіх апавяданьняў, выданых у зборніках: „Бярозка“, „Васількі“, і іншых кніжак, ляжыць пахаваны на Віленскіх магілках Росса, а дзярвяны збутвелы крыж над яго магілай з кожным днём хіліцца што-раз ніжэй. Праходзячы ля яго, з вялікім толькі трудам можна давядацца з заржавелай таблічкі, што тут знаходзяцца астаткі цела беларускага пісьменьніка, дзеяча і паэта.*

*Дзеіцца гэта ў Вільні, дзе знаходзіцца цэнтр беларускага нацыянальнага руху, адкуль плыве беларускае друкаванае слова з заклікам шанаваць свае нацыянальныя памяткі, разьвіваць любоў да свае Бацькаўшчыны, ахвярна працаваць для агульнага дабра і г. д. Сорам, сапраўды вялікі сорам, усім беларусам, каб у такім стане была магіла нашага песьняра. Сорам гэты яшчэ больш узьвялічыцца, калі зважым, што магіла Ант. Лявіцкага знаходзіцца пры галоўным уваходзе на Россы і што на яе глядзяць сотні і тысячы людзей чужых і далёкіх, часта прыеждждых нават з заграніцы. Праўда, цяжкія варункі, у якіх знаходзімся, не пазваляюць нам на ўфундаваньне А. Лявіцкаму маўзолеум, аднак ня можна згадзіцца, каб магіла ягоная далей была так апушчанай і закінутай. Да ўпарадкаваньня яе трэба прыступіць зараз-жа, і сёлета ўшчэ мусім паставіць на ёй хоць скромны памятнік. Ініцыятыву і арганізацыйную пры гэтым працу бярэ на сябе Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі“, ахвяроўваючы адначасна на памятнік А. Лявіцкаму з свае скромнае касы 50 злотаў. Памятнік гэты, бязумоўна, зможа быць тады, калі ініцыятыву нашу падтрымае ўсё беларускае грамадзянства, калі кожны беларус выпаўніць свой абавязак і зложыць на гэта сваю ахвяру, да чаго горача ўсіх заклікаем!*

*Ахвяры просім слаць на адрыс Red. „Šlachu Moładzi“ — Wilno, Zawalnaja 1. Прозьвішчы і сумы ўсіх ахвярадаўцаў і справаздачу*

*з працы будзем друкаваць у „Шляху Моладзі,“ пачынаючы ад наступнага нумару.*

*Няхай-жа зварухнуцца беларускія сэрцы, а закінутая магіла А. Лявіцкага няхай прыйме належны ёй выгляд і няхай будзе доказам, што і Беларусы ўмеюць шанаваць памяць тых, што працавалі для Беларускага Народу і цярпелі за яго справу.*

*Рэдакцыйная Калегія*
*«Шляху Моладзі».*

*Вільня, 20.IV.37.*

---

МІХАСЬ МАШАРА.

* * *

Возера сьпіць у затоках.
Выехаў месяц на лоў
Кагаркі скрыльлем шырокім
Срыбную сетку разьвёў.

Аж да вады там бярозы
Косы спусьцілі свае,
Зорачкі сьвечкамі з воску
Хтось запаліў там на дне.

Неба начное глыбока.
Сон агарнуў берагі,
Дзесь там далёка у змроку
Вёсак мільгаюць агні.

Ціха над возерам сонным,
Сьпіць асака і чарот.
Плюскаюць хвалі пад чоўнам
Сонную россып пяшчот.

Вёслы рытмічна скрыпнулі,
Бераг туман агарнуў.
Зоры на хвалях мільгнулі
На разьвітаньне чаўну.

Ноч і вада навакола.
Зоры і месяц на дне.
Вёслы глыбей! Хай вясёлы
Сьпеў цішыню скалыхне.



# Naš litaraturny maładniak

Biełaruski narod, jaki ŭ praciahu doŭhich stahodździaŭ svajej sumnaj historyi nia moh prajaŭlać svaich tvorčych zdolnaściaŭ, maje ciapier vielmi mnoha ab sabie skazać śvietu. U spadčynie, pa całych viakoch zaniapadu, ciemry j pryhonu my musim siańnia ŭva ŭsich halinach adrabić ahraichniaj čaradziejnaj liraj, novyja rady litaraturnych vołataŭ.

Nia budziem siańnia havaryć ab našym litaraturnym žyćci ŭ Savieckaj Biełarusi, jakoje, niahledziačy na vialikija pieraškody z boku balšavickich uładaŭ, usiožtaki prajaŭlała bujny i biazupynny rost; zatoje, nažal, vielmi za-



MAKSIM TANK.

madnyja zalehłaści, usio toje, što inšyja narody vykonyvali, raźvivajučysia narmalna z pakaleńnia ŭ pakaleńnie. Dyk mahčyma hetym jakraz možna vytłumačyć cikavaje źjavišča, što ŭ nas u praciahu karotkaha času našaha adradžeńnia pajavilas'a adnosna mnoha ŭzapraŭdnych koryfejaŭ litaratury, hienijaŭ i prarokaŭ, što ŭ tym časie, kali jašče tvorać Kupała i Kołas, iduć užo za imi, uzbudžanyja hrožana jaje budučynia ŭ suviazi z apošnimi vostrymi i biespadstaŭnymi vystupleńniami vorhanu K.P.B. „Звязды" suproć najvydatniejšych biełaruskich paetaŭ i piśmieńnikaŭ, i aryštami ich. Spynimsia tolki nad pracaju i jaje vynikami našaha litaraturnaha maładniaka na Zachadzie, jaki biespasiaredna ci pasiaredna hurtujecca siańnia ŭ Vilni. Voś-ža i tutaka mastackaja litaratura, choć nia maje naležnych va-

runkaŭ dla raźvićcia, ustupiła siańnia ŭ paru bujnaha roskvitu. Jana apieradziła ŭsie inšyja haliny kulturnaha žyćcia, vykazyvajučy mahutny rost tak z hledzišča ideolohičnaha adbićcia žyćcia i jaho patrebaŭ, jak i ŭ halinie raźvivańnia j tvareńnia vysokich mastackich vartaściaŭ.

Z pasiarod maładych biełaruskich paetaŭ i piśmieńnikaŭ najbolš ŭvahi źviartaje siańnia na siabie *Maksim Tank*, piaśniar pieršaradnaje vialičyni, iz mahutnym i śviežym talentam, niazvyčajnymi zdolnaściami i šyrokim tvorčym razmacham, piaśniar, jakija ŭ historyi paasobnych narodaŭ pajaŭlajucca niačasta. Užo samo jaho niespadziavanaje i raptoŭnaje pajaŭleńnie na biełaruskim litaraturnym kruhazory i jaho paźniejšy vielmi šybki rost byli źjaviščam u vilenskim biełaruskim žyćci niaštodziennym i niazvyčajnym. Chacia prabavaŭ Tank pisać šmat raniej, adnak staŭsia viedamym hramadzianstvu, jak novy vydatny paeta, mała bolš, jak hod tamu nazad, debiutujučy na bačynach „Šlachu Moładzi“ i „Маладой Беларусі“, a paśla pišučy ŭva ŭsich inšych biełaruskich časapisach. A ŭžo siańnia źjaŭlajecca Tank aŭtaram vialikaha liku liryčnych vieršaŭ, prozaičnych apaviadańniaŭ, urešcie niekalki pryhožych i vysokamastackich paemaŭ na čale z niadaŭna zakončanaj „Нарачай“. Usie-ž hetyja tvory pavodle svajej mastackaj vartaści zajmajuć adno z najbolš pieršaradnych miescaŭ uva ŭsiej biełaruskaj litaratury. Niahledziačy na svaju bahatuju litaraturnuju pradukcyju, Tank źjaŭlajecca vielmi maładym, faktyčna tolki pačynajučym paetam i jahonaja čarujučaja pieśnia jašče daloka niedapietaja.

Usia Tankava tvorčaść vyrastaje z nietraŭ biełaruskaha sučasnaha žyćcia, vielmi šyraka i biespasiaredna adbivaje ŭsie imknieńni i pieražyvańni masy. Ale adnačasna hety čuły vodhałas pieśniara na prajavy sučasnaha narodnaha žyćcia, uvieś idejny źmiest jaho tvoraŭ znachodzić vysokaje artystyčnaje vyražeńnie, pieralivajecca praz pryzmu ŭzapraŭdnaje krasy. Piaśniar šyraka i svabodna karystaje sučasnymi pryjomami i sposabami litaraturnaha mastactva, maje dobraje vyčućcio smaku i miery, adnačasna patrapiŭ uniknuć u stychiju biełaruskaje movy i vykarystoŭvać usie jaje mastackija asablivaści. Dziakujučy vialikamu pryrodnamu talentu, ale adnačasna i hruntoŭnaj pracy nad saboj, zmoh jon apanavać i ŭdaskanalić usie važniejšyja artystyčnyja elementy litaraturnaha tvoru. Hetak amal kožny tvor jahony z boku svajej budovy (konstrukcyi) jość dobra abdumanym i pradstaŭlaje arhaničnuju artystyčnuju całaść, čaruje i pieścić naš zrok vielmi pukatymi i plastyčnymi abrazami.adnačasna, dziakujučy śmiełaści i roznajakaści hukavoj formy vierša, vyklikaje ŭ čytača hłybokija muzykalnyja ŭražańni.

Aprača hetaha Tank źjaŭlajecca hłybokim lirykam, zdolnym biespasiaredna pieradavać najhłybiejšyja svaje pieražyvańni i ŭražańni. Tvory jahonyja vyznačajucca haračaj i hłybokaj pačućciovaściu, jakaja, u zaležnaści ad roznych metaŭ aŭtara, to łahodna i sałodka kazyča našaje serca, to pienicca burlivaj chvalaj, dachodziačy da napružanaj dynamičnaści. Pobač iz hłybokim liryzmam, spatykajem u tvorach paety, asabliva ŭ jaho paemach, šyrokija epickija pałotny, realistyčnyja i sakavityja malunki bytu biełaruskaha sialanstva i abrazy bahataj viaskovaj pryrody.

Tank nie staić na adnym miescy, ale šybkimi šahami idzie napierad, uściaž šukaje novych formaŭ i sposabaŭ mastackaha vy-

jaŭleńnia svajej dumki. Amal kožny bolšy jahony tvor jość śmiełaju j zdecydavanuju, ale adnačasna i ŭdałaju sprobaju tvareńnia što raz novych artystyčnych var tasciaŭ. Jość heta miž inšym adnym iz dokazaŭ biazupynnaha rostu i šybkaha daśpiavańnia pieśniara.

Zusim inšyja paetyckija asablivaści vystupajuć u tvorčaści *Natalli Arsieńnievaj*, taksama vysoka ŭtalentavanaj piaśniarki, jakaja pracuje na litaraturnych honiach jašče ad 1921 h. Pakolki Tank paryvaje i ŭschvaloŭvaje dušu čytača šyrokim paetyckim razmacham i mahutnymi pačućciami, patolki Arsieńnieva čaruje nas miakkim i piaščotnym liryzmam, hłybokaj, ale sałodkaj nastrajovaściu, specyfičnaj muzykalnaściu i miłahučnaściu vierša. Vyražajučysia kankretna, Tank źjaŭlajecca ŭ našaj litaratury jak-by pradstaŭnikom mužskoje siły i razhonu, a Arsieńnieva — žanočaj łaski i piaščotnaści. Hramadzka - adradženskija imknieńni narodu nie zmahli biespasiaredna adbicca ŭ jaje tvorčaści, zatoje z vialikim talentam i hłybokim vyčućciom krasy maluje jana bahatuju i raznajakuju biełaruskuju pryrodu, čuła adklikajecca na roznyja jaje prajavy, dajučy volu hłybokim duchovym pieražyvańniam i zachapleńniam charastvom vonkavaha śvietu. Jaje lityčnyja vieršy, źmieščanyja ŭ zborniku „Пад сінім небам" i ŭ pryhatavanym da druku zborniku „Жоўтая восень", źjaŭlajucca praŭdzivymi perłami mastactva: z misterna i dalikatna admalavanych u ich abrazoŭ pryrody, z niazvyčajna miłahučnych i muzykalnych radkoŭ i strofak vypłyvajuć hłybokija i miakkija pačućci, jakija lohka pieradajucca čytaču i vyklikajuć u im adpaviedny nastroj.



NATALLA ARSIEŃNIEVA.

Bahatym raździełam u tvorčaści Arsieńnievaj jość epickija pa-

emki iz cyklu „Зачараваны кут". Piaśniarka čerpaje ŭ ich poŭnaju žmieniaju iz narodnaje tvorčaści i stvaraje ŭ pryhožaj mastackaj formie fantastyčny, kazačny śviet, zasieleny vadzianikami, lasunami, rusałkami i ŭtoplenicami. Zachoplenaja biełaruskaj narodnaj pieśniaj i kazkaj, Arsieńnieva i ŭ stylu svaich paemaŭ starajecca ŭpłatać asablivaści narodnaje formy. Takim sposabam uspomnienyja paemki, asabliva „Шчасьце", „Балотніца" ci „Лебядзінае возера" i inšyja pradstaŭlajuć u našaj litaratury pavažnaje artystyčnaje asiahnieńnie, jak tvory, asnavanyja na narodnaj tvorčaści, hetaj naturalnaj i bahataj krynicy biełaruskaj mastackaj litaratury.

Apošnim časam Arsieńnieva mnoha pracuje ŭ litaraturnaj halinie, a jejny talent uściaž raźvivajecca i bujnieje. Asabliva ŭdajucca jej proby adśviažeńnia svajej tvorčaści šlacham apanoŭvańnia bolš novaj i sučasnaj formy vierša, šlacham zbližeńnia da biełaruskaj sialanskaj stychii ŭ stylu i movie svaich tvoraŭ.

Vydatnaje miesca ŭ sučasnaj biełaruskaj paezii zajmaje *Michaś Mašara*, vielmi papularny i šyroka viedamy siańnia paeta niatolki siarod intelihiencyi, ale i ŭ narodzie. Jahonaja litaraturnaja praca jość adnym z najbolš jarkich i vymoŭnych prykładaŭ samatužnych imknieńniaŭ zdalniejšych adzinak našaje moładzi da litaraturnaje tvorčaści, napierakor usim asabistym i hramadzkim pieraškodam. Adarvany ad kulturnaha asiarodździa, nieabchodnaha kožnamu tvorčamu talentu, Mašara žyvie ŭvieś čas na vioscy, dzielačy z sialanstvam usie niahody sučasnaha žyćcia i mataryjalnuju halitu.

Ciažkoje pałažeńnie asabistaje nie zmahło prytušyć u im tvorčaha natchnieńnia, jakoje ŭściaž vybuchaje z novaj siłaj. U svaich liryčnych vieršach z vialikim optymizmam i patosam apiavaje jon ščaślivuju budučyniu narodu, jakaja, pavodle ŭjaŭleńnia pieśniara, chutka pavinna zakrasavać na našaj ziamli. Narodna-hramadzki element źjaŭlajecca najmahutniejšaj stychijaj vieršaŭ Mašary, prabivajecca jon u ahramadnaj bolšaści jahonych tvoraŭ, hučyć mahutnym pryzyvam da pracy i baraćby za narodnuju dolu, abo vylivajecca ŭ formie vizii niedalokaj budučyni, jakuju ŭbiraje paeta ŭ soniečnyja bleski.

Pavodle svajho charaktaru jość Mašara pieradusim liryk. Apráča tvoraŭ z hramadzkim źmiestam, asabliva pryhožyja i ŭdałyja z artystyčnaha hledzišča źjaŭlajucca vieršy, u jakich jon vylivaje svaje ŭłasnyja, asabistyja pieražyvańni i zachapleńni charastvom rodnaha kraju. U hetyja vieršy ŭkładaje jon mnoha ščyraj pačućciovaści i ciapła.

Paetycki talent Mašary bujny i niaštodzienny. Adnak u vyniku ŭspomnienych asabistych abstavinaŭ, jakija nie dazvalajuć jamu žyć u kulturnym asiarodździ i systematyčna pracavać nad saboj, tvory jahonyja majuć niekatoryja artystyčnyja i techničnyja zahany. Mašara nia zmoh apanavać i prysvoić novaj, sučasnaj formy vierša, a jdzie starymi, tradycyjnymi šlachami. Zamiest taho, kab u tvory malavać kankretnyja, realnyja abrazy, z jakich by vypływała dumka aŭtarava, Mašara zašmat układaje ŭ ich abstrakcyjnaha, adarvanaha źmiestu, zamnoha pasłuhoŭvajecca deklamacyjaj i patosam. Nia mohučy naležna raźvivacca i ŭzbahačvać svaich tvorčych mahčymaściaŭ, paeta za časta paŭtarajecca, zadzieržyvajučysia pry tych samych mastackich asiahnieńniach, zamiest tvaryć što raz novyja i śviežyja.

Treba z pryjemnaściu padčyrknuć, što Mašara apošnim časam zrazumieŭ svaje zahany i z dob-

rymi vynikami starajecca ich pazbycca. Niekatoryja naviejšyja jaho tvory źjaŭlajucca vialikim krokam napierad i śviedčać, što piaśniar zdoleje jašče šyraka razharnuć svaje tvorčyja zdolnaści.

Da pieradavych paetaŭ naležyć i *Michaś Vasilok*, katory, jak i Tank rapievami „našaniŭskaje“ paezii z jaje ślaźlivym, sentymentalnym biedavańniem nad narodnaju niadolaj, i z jaje pierastarełaj, jak na siańniašnija časy, litaraturnaj formaj.

Potym adnak patrapiŭ paeta pierałamacca i stać u rady pierадavych sučasnych pieśniaroŭ. Naj



MICHAŚ MAŠARA.

i Mašara, čuła adklikajecca ŭ svaich liryčnych vieršach na hramadzkija patreby narodu. Vasilok — heta paeta z niazvyčajna čułaj i ŭražlivaj dušoj, zdolny biespasiaredna i ščyra adkliknucca na narodnaje hora i niadolu, a tak-ža zachapicca prajavami krasy, zatojenaj u bahataj i čaroŭnaj pryrodzie biełaruskich prastoraŭ. Na darozie dasiulešniaj tvorčaści prajšoŭ jon cikavuju evolucyju. U pieršym peryjadzie bolšaść jahonych tvoraŭ (zbornik („Шум бараsы“ z 1929 h.) była spoźnianymi pie-

davych sučasnych pieśniaroŭ. Naj lepšym hetaha dokazam jość apošni zbornik jaho vieršaŭ „З сялянскіх ніў“, praŭda, nievialički, ale jak-ža cikavy i cenny z boku mastackaha i idejnaha rostu aŭtara. Niekatoryja vieršy, źmieščanyja ŭ hetym zborniku, vysoŭvajuć Vasilka na adno z pieršych miescaŭ u našaj sučasnaj paezii. Jany svaim badziorym nastrojem, napružanaj dynamikaj abo ŭračystaj pavahaj, vysokimi ŭźlotami dumki i hłybinioj idei žyva pramaŭlajuć da čytača i padyjmajuć jaho duchova.

U mnohich prypadkach dobra ŭdajecca Vasilku novaja forma vierša, z jaje bolš svabodnaj rytmikaj, aryhinalnymi rymami, cikavaj i śmiełaj metaforyčnaściu movy i inš.

Jak mastak, maje Vasilok hłyboki talent i vialikija zdolnaści, jakija nažal nie mahli dahetul naležna raźvicca i zakrasavać u poŭnym blesku z pryčyny niavymoŭna ciažkich asabistych abstavinaŭ paety, zmušajučych jaho žyć na vioscy daloka ad kulturnaha centru i pieranosić na svaich plačach jaje mataryjalnuju halitu. Dziakujučy hetamu jahonyja vieršy časta źjaŭlajucca šorstkimi i słaba apracavanymi z hledzišča techničnaha, zašmat u ich prozaičnaj deklamacyi i lozunhovaści i inš.

Biaručy pad ŭvahu ŭsie dobryja baki jaho tvorčaści, śviežaść i hłybiniu talentu paety, niekatoryja ŭzapraŭdy vialikija j aryhinalnyja artystyčnyja asiahnieńni ŭ apošnim jaho zborniku vieršaŭ, urešcie bujny i biazupynny rost pieśniara, možna śmieła spadziavacca, što Vasilok zdoleje jašče jarčej i pryhažej raśćviści na bahataj i kałasistaj nivie biełaruskaje paezii.

Asnovaju tvorčaści ŭspomnienych paetaŭ źjaŭlajecca pieradusim biełaruskaja vioska z jaje siarmiažnymi žycharami, jakuju kožny z ich starajecca apiavać na svoj ład. Navat i Arsieńnieva, jakaja pavodle ahulnaha svajho charaktaru jość intelihienckaj piaśniarkaj, starajecca, choć pasiaredna, źviazać svaju tvorčaść z viaskovymi hruntam, šlacham uzbahačvańnia svajho stylu i movy matarjałam, uziatym z sialanskaha žyćcia, šla cham malavańnia viaskovaje pryrody i vykarystoŭvańnia narodnaje tvorčaści.

Ad hetych aŭtaraŭ jarka adroźnivajecca *Chviedar Illašević*, jaki źjaŭlajecca tut u nas adzinym pieśniarom biełaruskaha miesta. U suviazi z hetym i niekatoryja artystyčnyja rysy jaho tvoraŭ majuć u sabie vyraznyja asablivaści, charakternyja dla tvorčaści miaščanska-intelihienckich paetaŭ naahuł. Hetak, vierš jahony źjaŭlajecca pieravažna spakojnym i zraŭnavažanym, časami navat „vyrazumavanym", u im trudna było-b šukać tej hłybokaj i śviežaj pačućciovaści i zachapleńniaŭ, jakija charakteryzujuć tvorčaść našych paetaŭ sialanskaha kirunku. Zatoje vierš Illaševiča žyva pramaŭlaje da nas bahataj i zhuščanaj vobraznaściu, a časta i muzykalnaściu. Illašević maje davoli vialiki poetycki talent i adnosna vysokuju litaraturnuju kulturu. Na šlachu svajej tvorčaści jon uściaž raźvivajecca, ab čym śviedčać try zborniki jaho vieršaŭ („Веснапесьні" 1929 г., „Зорным Шляхам" 1932 г. i „Захварбаваныя вершы" 1936 г.), vykazvajučyja biazupynny rost pieśniara.

Apräča vieršaŭ, zasłuhoŭvaje Illašević na ŭvahu, jak aŭtar prozaičnych apaviadańniaŭ, jakija padpisyvaje pseŭdonimam *M. Dalny*. Apaviadańni hetyja ŭ bolšaści svajej stajać na davoli vysokaj mastackaj vyšyni i śviedčać, što ŭ hetaj halinie moža aŭtar pryniešci vialikuju karyść biełaruskaj litaratury.

Z pasiarod najmałodšych biełaruskich paetaŭ robić vialikija postupy *Nina Tarasiška*. Jejnyja vieršy vyznačajucca lohkaściu i muzykalnaściu rytmiki, majuć u sabie mnoha śviežaści i hłybokaha liryzmu, apräča hetaha źjaŭlajucca dobra apracavanymi technična. Sudziačy na padstavie dasiulešnich jaje vieršaŭ, prabivajucca ŭ jaje vialikija paetyckija zdolnaści i bujny talent, jakija adnak vymahajuć jašče systematyčnaj pracy nad saboj. Pieradusim treba pažadać, kab našaja maładaja paetka starałasia rassšyryć kruh svaich siužetaŭ i imknułasia da stvareńnia svajho indyvidualnaha stylu.

Z dobraha boku pakazaŭ siabie i *A. Biarozka*, vieršy katoraha zvyčajna majuć hłyboki psycholohičny źmiest, vyznačajucca nastrajovaściu, a tak-ža z boku artystyčnaha stajać na adpaviednaj vyšyni. Davoli cikavymi i aryhinalnymi źjaŭlajucca tvory Biarozki z boku svajej tematyki i paetyckaha jaje apracavańnia. Škada tolki, što sam ratury paklikali da pracy cely rad novych, najmałodšych paetaŭ i piśmieńnikaŭ. Amal kožny numar „Šlachu Moładzi“ i „Biełaruskaha Letapisu“ prynosić novyja i niaviedamyja dasiul proźviščy, padpisanyja pad vieršami i apaviadańniami, majučymi časta značnyja artystyčnyja zadatki. Trudna jašče siańnia hadać ab budučy-



MICHAŚ VASILOK

aŭtar, pavodle svajho charaktaru niazvyčajna skromny, nie dacenivaje svajej tvorčaści i zamała pryśviačaje joj času.

Apošnim časam pačaŭ zavajoŭvać naležnaje sabie miesca na biełaruskim Parnasie i *Anatol Ivers*. U niekatorych jahonych vieršach znachodzim davoli ŭžo vyrablenuju formu, mnoha śviežaści i paetyckaha razhonu.

Apošnija hady vialikaha ažyŭleńnia na nivie biełaruskaje litani debiutujučych jašče maładych litaraturnych pracaŭnikoŭ, adnak-ža niekatoryja z ich zasłuhoŭvajuć užo na ŭvahu.

I tak, znachodzim niekatoryja zadatki talentu ŭ vieršach *S. Chmary*, jaki, nažal, časta tracić mieru ŭ imknieńni za sučasnaj metaforyčnaściu movy, dy biez patreby silicca na praletarski kirunak u svajej tvorčaści, chacia sam, pavodle svajej psychiki, źjaŭlajecca sielaninam. Zatoje davoli dobra

ŭdajucca jahonyja reportažy. Litaraturny talent prabivajecca ŭ vieršach *Jazepa Vilkoŭščyka*, časta padchvarbavanych nastrojovaściu abo humaram. U halinie mastackaje prozy dali pa niekalki apaviadańniaŭ *Andrej Čemier* i *Vik-Reno*. Niekatoryja paetyckija zdolnaści prajaŭlajucca tak-ža ŭ tvorach *P. Žviastuna, M. Zasima, A Milucia, P. Hranita, Lavona Burałoma, Maładoha Dubka, S. Harotnaha, J. Kryhi, A. Dubroviča, M. Padbiareskaha* i inšych. Treba spadziavacca, što prynamsi niekatoryja z uspomnienych, pačynajučych jašče paetaŭ z chodam času stanucca pavažnymi litaraturnymi siłami.

Pierahladajučy tvorčaść našych maładych paetaŭ i piśmieńnikaŭ, možna było zaŭvažyć, što svaimi karaniami vyrastaje jana z narodnych nietraŭ i adtul čerpaje žyćciodajnyja soki ŭ svaim dalejšym raźvićci. Hetaje arhaničnaje zradnieńnie našaj litaratury z žyćciom, patrebami i imknieńniami masaŭ, šyrokaje vykarystoŭvańnie ŭ tvorach matarjału iz sialanskaha žyćcia, urešcie ŭzbahačyvańnie i daskanaleńnie paetyckaje movy na asnovie asablivaściaŭ narodnaha jazyka jość źjaviščam niazvyčajna dadatnim. Usio heta jość vymoŭnym dokazam, što našaja litaratura raźvivajecca ŭ pravilnym kirunku, što jana nie adharadziłasia ad narodu kitajskim muram, ale źjaŭlajecca vyjaŭleńniem u vysokaj mastackaj formie jaho tvorčych zdolnaściaŭ, jahonaha biazupynnaha rostu i stychijnych imknieńniaŭ da vyšejšaj formy kulturnaha žyćcia.

*A. R—uk.*



## Šumieli, šumieli...

Šumieli, šumieli biarozy u haju
u dzień i ŭ načy.
Ciabie ja pra ščaście svajo zapytaju
damoŭ idučy.

Hlań, sonca zachodzić i cieni splataje
Nad rečkaju noč.
Z-za ciomnaha lesu, dziaŭčyna lubaja,
k tabie ja pryšoŭ.

Kałyšucca nivy spakojna u poli
i hniecca trava.
Chadzili dziaŭčaty, chadzili miažoju
kałośsie zryvać.

Tak časta byvała darohaj niaznanaj
błudžu pamiž niŭ,
dy raz zamihcieła pamiž vasilkami
vočej tvaich siń.

Skažy, ci kachaješ, dziaŭčyna lubaja,
ŭžo blizka damoŭ.
Šumieli, šumieli biarozy u haju,
dy zmoŭkli iznoŭ.

Vilnia, 7.IV.37 h. **Nina Taras.**

# Крэатура фашызму.

Апошнім часам менская камуністычная прэса прыносіць новыя весткі аб тым, што „фашысцкая“, „белабандыцкая“, „здрадніцкая“ зараза йзноў паявілася ў БССР, і гэтым разам якраз на савецкім алімпе — ў Саюзе Савецкіх Пісьменьнікаў.

Няшчаснымі ахвярамі зьяўляюцца цяпер перадусім першы старшыня БССР і ведамы паэт Цішка Гартны (Жылуновіч), тварэц беларускай пралетарскай паэзіі Міхась Чарот, а так-жа паэты: М. Зарэцкі, Сымон Баранавых, Хадыка, Дудар, Вольны, Кляшторны, Сташэўскі, Лынькоў і інш. Атаку процiў іх на бачынах камуністычнае „Звязды“ (№ № 69 і 70 сёл.), грамавымі артыкуламі, поўнымі палітычнай гістэрыі і вульгарнай лаянкі павялі паэт А. Александровіч і крытык А. Кучар.

Унутраныя змаганьні і самавынiстожваньне камуністаў як такіх, нас, бязумоўна, мала цікавіць і цікавіла-б, калі-б ня тое толькі, што барацьба гэта і безканечныя чысткі ад „нацдэмаўшчыны“ і „троцкізму“ не прычыняліся да нiстажэньня тых людзей, якія ўсё-ж тварылі і маглі-б далей тварыць беларускую культуру. Дзеля гэтага, бязумоўна, а такжа дзеля зьвярненьня ўвагі беларускае моладзі на агідныя мэтады Александровіча і Кучара, ды ўрэшце дзеля выясьненьня фактычнай прычыны іхніх атакаў, ніжэй займемся гэнай справай.

Вось-жа, паводле Александровіча і Кучара Цішка Гартны гэта: — заядлы вораг савецкае ўлады, творчасьць яго шкодная, бяздарная, сам ён „правакатар, нацыяналіст“. Шлях-жа дзейнасьці „ворага народу Чарота поўны самага подлага здрадніцтва інтарэсаў краіны“. Зарэцкі гэта — „контр-рэвалюцыянэр, мярзотнік і нягоднік, бульварны бэлетрыст“, „працягваў у літэратуру“ свае творы, якія зьяўляюцца „выразнай праграмай дзеяньня нацыянал-фашызму“. „Па іх сьцежках ішоў ядавітай кулацкай гадзінай Баранавых, юрадзівы, культура якога была на ўзроўні культуры дарэвалюцыйнага канавала“.

Праўда, яны каяліся, прасілі даць магчымасьць выправіць памылкі сваей работай. Напісалі па два тры падхалімажныя хаўтурныя апавяданьньні, „прызналі“ савецкую ўладу і змоўклі. Але, паводле Александровіча, „маўчаньне было маскіроўкай ворага, які не разброіўся, бо само „маўчаньне“ было „не маўчаньнем“ — яны пісалі, і рукапісы сваіх „твораў“ хавалі ў сундукі, чакаючы... зручнага мамэнту.

Відаць, у Александровіча куды большыя здольнасьці дэтэктыва, чым паэта, калі ён ужо заглядаў у чужыя сундукі, каб мець тэму для публічных даносаў.

„Вольны, Хадыка, Кляшторны і іншыя — гэта гнусныя тыпы, атручаныя чадам алкаголю, ня раз падбіраліся, як падаль, з рыныштокаў і адвозіліся ў профілактар міліцыі“. Гэта яны, кажа Александровіч, каб разлажыць рады савецкіх пісьменьнікаў „насаждалі бытавы распад, п'янства, багему. Ад багемы да фашызма — адзін крок“. Магчыма. Але мусіць ня ведае „прарок“ Александровіч, што ўжо самы сапраўдны фашызм пачынаецца там, дзе згублена Матка-Праўда, дзе людзі страцілі ўсялякае пачуцьцё моральнай адказнасьці нават перад уласным сумленьнем.

Чытаючы артыкулы Александровіча і Кучара, б'е ў вочы адсутнасьць гэтай Праўды, хвараблівая злосьць, непрызваітасьць,

нячуваная ў культурным асяродзьдзі наагул, ня кажучы ўжо аб пісьменьніках, як перадавым авангардзе агульна-людзкай культуры. Страшнейшага і цяжэйшага прысуду Саюзу Беларускіх Савецкіх Пісьменьнікаў за ўвесь час яго існаваньня не зрабіў ніводзін фашыст на сьвеце. Толькі „вялікі крытык“ А. Кучар сваіх калегаў, старэйшых пісьменьнікаў Сав. Саюзу, хрысьціць „прастарэлымі мярзотнікамі ад нацыяналізма“, а маладых — плеядай іхніх дапаможнікаў, і што ўсе яны „контррэвалюцыйная нацыяналістычная сволач“, якая зьвязала сваю дзейнасьць „з трацкісцкімі бандытамі, з тэрарыстымі, з замежнымі ахранкамі“. Як бачым, Кучар піша таксама, „благонадежно“, як пісалі Радэк і іншыя, залізваючы свае собскія грахі. Зусім магчыма, што і Кучар гэтак стараецца дзеля таго, што мае на сваім сумленьні ня мала грахоў, бо ўжо псыхіка праступніка заўсёды вымагае крычаць і тыкаць пальцам на нявінных ахвяр, каб ратаваць сваю асобу.

Для Кучара патрэбна было нават бел. паэта А. Гаруна „мянаваць“, польскім палкоўнікам пасьля яго сьмерці, каб у 1937 годзе зрабіць Чарота здраднікам за яго верш на сьмець гэтага паэта, напісаны яшчэ ў 1921 г.

Каб лепш уявіць сабе ўвесь цынізм абвінавачаньня, прачытаем для прыкладу тое, што пісаў А. Кучар пра Сымона Баранавых, якога цяпер мяшае з балотам, пару гадоў таму назад.

„Баранавых не глядзіць на сялянства зьверху ўніз, як гэта звычайна ўласьціва многім „інтэлігенцкім“ дробнабуржуазным пісьменьнікам“, якія пішуць пра вёску, ён ня кідаецца ў *выключныя глыбіні* сялянскае псыхікі, ён бярэ селяніна „знутра“, ідзе разам з ім, яго ідэалы ў пэўнай меры ёсьць ідэалы гэтага селяніна, зразумела, што ён прадстаўляе перадавую частку гэтага сялянства, таго сялянства, якое, перамагаючы ў сабе ўласьніцкае нутро, ідзе ў авангардзе аснаўных мас сялянства. Так як аснаўныя масы сялянства, якія змагаюцца пад кіраўніцтвам пралетарыяту, ідуць да пралетарыяту, так і пісьменьнік Сымон Баранавых ідзе і набліжаецца да пралетарскай літаратуры.“ (Алесь Кучар: „Вялікая перабудова“ — кніга літаратурнае крытыкі бач. 103 Менск БДВ. 1933 год).

„...Вобразны матар'ял аповесьці Сымона Баранавых адрозьніваецца надзвычайнай сьвежасьцю. У гэтых вобразах, як і ва ўсей аповесьці С. Баранавых, так, як і ў яго мове, чуецца моцная зьвязанасьць пісьменьніка з рэальным і матар'яльным сьветам, поўнакроўнасьць і глыбокая жыцьцяадчувальнасьць...“

„...Гэтая якасьць ёсьць якасьцю здаровага па свайму нутру пісьменьніка“ і г. д. (там-жа, бач. 107).

Два-тры гады таму назад адзначаліся якасьці „здаровага па свайму нутру пісьменьніка“, а цяпер раптоўна адзначаецца „бяздарнасьць яго творчасьці“, і даецца нячуванае параўнаньне пісьменьніка з „ядавітай гадзінай“...

Але ўсё-ж такі цікава дзе крыецца істота ўсяго гэтага незразумелага для нас крыку і абвінавачаньня тых людзей, якія пялі гімны на чэсьць Саветаў, былі выдатнымі камуністычнымі пісьменьнікамі, ды якім фактычна робяць закіды, не падаючы зусім канкрэтнага матарыялу, абкідваючы толькі непрызваітай лаянкай?

Справа аднак выясьняецца проста. Напады на Саюз Пісьменьнікаў выкліканы тым, што „сарвана сваячаснае выданьне твораў Пушкіна“, што галоўныя ахвяры нападаў — Чарот ды

Гартны выступалі быццам „проціў магутнае рускае культуры і проціў магутнага рускага народу“, што хацелі быццам адарваць Беларускі Народ ад Рускага Народу і іншых народаў савецкае краіны.

Вось дзе галоўная прычына ўсіх нападкаў! А калі паглядзім далей, дык яшчэ больш выясьніцца. Бо аказваецца, што творы Пушкіна былі ў перакладзе Александровіча і што іменна Цішка Гартны і Міхась Чарот выступалі, відаць, проціў іх выданьня не дзеля таго, што яны проціў Пушкіна, а проста проціў бяздарнасьці. Бо і сапраўды пераклады Александровіча на толькі бяздарныя, што паганяць як творчасьць Пушкіна так і беларускую мову. Характэрна, пры тым, што Александровіч „бароніць“ Пушкіна якраз такімі мэтадамі, якімі расейская бюрократыя не давала супакою гэтаму слаўнаму паэту і прычынілася да прадчаснае ягонае сьмерці.

Ня гледзячы на ўсё, гэта хапіла аднак самога гістэрычнага, злоснага крыку Александровіча і Кучара аб тым, што хтось выступіў проціў Пушкіна і рускай культуры, каб названых вышэй беларускіх паэтаў узяць пад „апеку“ ГПУ і рабіць ім закід, што хацелі ўжо адарваць Савецкую Беларусь ад СССР. Апошнія весткі польскіх газэт гавораць, што Цішка Гартны, Дудар, Зарэцкі, Сташэўскі, Вольны і іншыя ўжо арыштаваныя.

Акт абвінавачаньня выпісаны Александровічам і Кучарам сваім калегам—беларускім пісьменьнікам прыдаўся-б якраз для Юды з Карыот‘а, або для Азэфа. І гэта ўсё „для рускай культуры і рускага народу“.— Не. — Гэта ўжо проста паход проціў беларускай, нават пролетарскай культуры. Гэта ўжо сапраўдны фашызм, супроць якога павінен выступіць кожны чэсны беларус.

*Грамавік.*

---

## 1-шы Май — Сьвята Працы

З году ў год працоўныя масы на ўсім бадай сьвеце дзень 1-га мая сьвяткуюць як Дзень Сьвята Працы. Сьвяткуюць яго, ладзячы паходы, дэмонстрацыі, вечы, зборкі, прадстаўленьні, нарады, лекцыі і г. п. Дзень гэты, як Сьвята Працы, устаноўлены ў 1889 г. на Сацыялістычным Кангрэсе ў Парыжы. І дзеля гэта спачатку было яно сьвятам выключна сацыялістых. З часам аднак дзень гэты стаўся сьвятам бадай усіх працоўных.

Мэтай Сьвята Працы зьяўляецца выяўленьне салідарнасьці працоўных масаў у барацьбе за роўныя палітычныя правы для клясы працоўных, за дэмократыю і сацыяльныя абесьпячэньні.

Дзеля гэтага, ясна Сьвята Працы вельмі непадабаецца капіталістам і абшарнікам, катэрыя на кожным кроку экспленатуюць працоўных, стараюцца праз увесь час быць на ўзьверху і кіраваць сьветам так, як ім падабаецца і так, як ім карысна.

У сувязі з гэтым 1-шы май бывае часта крывавым. Зьяўляюцца правакатары, робяць падрывы, паўстаюць бойкі, забурэньні і г. д.

Сёлета, як мінулыя гады, арганізацыі працоўных загадзя ўжо прыгатаўляюцца да сьвяткаваньня 1-га мая.

Беларусы, побач з працоўнымі ўсяго сьвету, так-жа сьвяткуюць 1-шы Май.

# B a s k i.

## (Z hišpanskaha katła).

U Hišpanii, jak u kipiačym katle, uściaž burna. Baraćba za ŭładu miž fašystami i lavicaj pradoŭžvajecca da bieskaniečnaści, prybirajučy što-raz vastrejšyja formy. Najhorš-ža, što ŭmiašalisia tudy inšyja dziaržavy, z katorych adny pamahajuć fašystam, a druhija lavicy. Pavodle padličeńniaŭ adnaje anhlijskaje hazety, u Hišpanii ciapier vajuje na frontach 750,000 ludziej. Pa staranie lavicy— ŭradu jość: 20,000 žaŭnieraŭ z rehularnaj hišpanskaj armii, 150,000 milicyjantaŭ, 150,000 švieža paklikanych u vojska rezarvistaŭ i achvotnikaŭ hišpanskich i 20,000 achvotnikaŭ zahraničnych. Razam 340,000 ludziej. Pa staranie fašystaŭ hien. Franka: 230,000 fašystaŭ (falangistaŭ i karlistaŭ), 40,000 žaŭnieraŭ rehularnaj armii, 125,000 marokancaŭ, 70,000 italijancaŭ i 30,000 niemcaŭ. Razam 395.000 ludziej.

Z zakałotu ŭ Hišpanii, jak my ŭžo pisali, chočuć pieradusim skarystać paniavolenyja Hišpanijaj narody: Katalońcy i Baski, jakija imknucca da vyzvaleńnia i stvareńnia svaich niezaležnych haspadarstvaŭ.

Hetym razam pazvolim sabie krychu bolš zatrymacca nad **B a s k a m i**, ab katorych u presie možna spatkać vielmi cikavyja apisańni.

Baski — narod niemnohaliki. Naličajuć ich u sučasny mament usiaho paŭtara miljona. Žyvuć jany na poŭnačy Piranejskaha paŭvostrava, nad Biskajskim zalivam — hraničačy na ŭschodzie z francuzami. Abšar Baskii zajmaje 17.482 kv. klm. Pry tym padzieleny jon na dźvie časci. Mienšaja, z 200 tys. baskaŭ, naležyć da Francyi, a bolšaja była pad uładaj dasiulešnaj Hišpanii.

Pachodžańnie baskaŭ navukova dahetul nia šćvierdžana. U kožnym razie viedama, što narod heny vielmi stary i z staroj vysokaj kulturaj. Niekatoryja kažuć, što baski pryjšli z zatoplenych vostravaŭ, a navat z lehiendarnaj Atlantydy. Faktam-ža jość, što na Pirenejach Baski byli ŭžo kala 3.000 hod pierad naradžeńniem Chrysta. Jazyk baskaŭ nia maje badaj ničoha supolnaha z nivodnym z sučasnych eŭrapejskich jazykoŭ. Svajactva-ž jaho šukajuć vučonyja ŭ movach: stara-iberyjskaj, berberskaj u Afrycy, u indyjskaj u Amerycy, u hruzinskaj na Kaŭkazie, i, što najcikaviej, byccam navat u iitoŭskaj. Śviedčyć heta, jasna, što jazyk Baskaŭ jość aryhinalnym, samabytnym, a hetym samym vielmi pamahaje im być adpornymi na asymilacyju — vynaradaŭleńnie.

Baski, padobna jak i Biełarusy, narod sialanski. Adznačajucca pracavitaściaj, kulturaj, luboŭju da navuki, da rodnaje movy, rodnych zvyčajaŭ, a tak-ža relihijnaściu. Vieravyznańnie ich rymska-katalickaje. Aśvieta ŭ Baskaŭ pastaŭlena vielmi vysaka. Jany vialikija patryjoty, niezaležniki i adnačasna šyrokija, ščyryja demakraty.

Historyja baskaŭ dramatyčnaja. Pierażyvali jany roznyja peryjady i mamenty, pačynajučy ad najsłaŭniejšych, praz zaniepad, da šyrokaha bujnaha adradžeńnia i sučasnaje nacyjanalna-vyzvalenčaje baraćby.

Baski ŭ staradaŭnaści žyli volnym žyćciom i ŭžo tady mieli respublikanska-demakratyčnyja paradki, varoža adnosiačysia da manarchaŭ. U siarednich viakoch niezaležny baskijski kraj dabravolna dałučyŭsia da Kastylskaj, panujučaj u Hišpanii, karony i nacyi, jas-

na, z varunkam, što pravy Baskaŭ buduć šanavanyja. Pa niejkim časie pačaŭsia ŭ Baskaŭ zaniepad. Na pačatku-ž XIX stahodździa hišpanskija karali złamali zabaviazańni adnosna baskaŭ, nie zvažajučy na vialiki spraciŭ słaŭnaha baskijskaha narodu. U 1833 h. Baskija była padzielena Hišpanijaj na try roznyja pravincyi pad uzhladam palityčnym i haspadarčym, a ŭ 1876 h. skasavany byli akančalna ŭsie pryvilei Baskaŭ. Pačaŭsia niabyvały praśled baskijskaj movy, haspadarčy vyzysk i h. d. Intelihiencyju i ksiandzoŭ baskijskich vysyłali ŭ čužyja dla ich starony, a na ich miesca prysyłali hišpancaŭ (kastylcaŭ).

Tymčasam Baski pačynajuć budzicca. Nastupaje sučasnaje nacyjanalnaje adradžeńnie. Raźvivajecca litaratura, svaje časapisy, ekanamičnyja i nacyjanalnyja arhanizacyi, rastuć maładyja navukovyja siły i h. d. Baskijski narod damahajecca spraviadlivaści, aŭtanomii kulturnaj, haspadarčaj i palityčnaj. Daremna adnak, bo ani manarchija, ani Hišpanskaja Respublika, jakaja paŭstała ŭ 1931 h., nie zvaročvali na heta ŭvahi.

Ale voś pryjšoŭ 1936 hod. Revalucyja!... Fašysty, „Narodny Front," Caballero. Blisnuła nadzieja vyzvaleńnia. Baski nacyjanalisty, ale adnačasna i demokraty, ludzi ŭ bolšaści relihijnyja, adnak chapilisia za aružža. Spačatku nia viedali što i jak rabić, dy pa čyjej stać staranie. Fašysty („paŭstancy"), jakija byccam bolšuju dajuć svabodu relihii, bližejšymi moža byli dla relihijnych baskaŭ; alež jany adkryta niaśli i niasuć nia volu. Caballero — „Narodny Front" kidaje klič svabody, daje nadzieju lepšaha zaŭtra, čaho zdaŭna prahnie baskijski narod. I Baski — kataliki, časta navat kanservatysty, stali pa staranie lavicy, pobač z sacyjalistymi, anarchistymi i kamunistymi suproć fašystaŭ. Na hranicach svajho kraju pabudavali niabačanyja dahetul nidzie krepaści. U niekatorych miascoch pavykopyvali niabyvałyja ravy suproć tankaŭ, pastavili navat vialiki, na 4 metry vyšyni, dvuch etažny betonny mur, abciahnuli ich kalučym drotam. Zbudavali vializarnyja padziamielnyja schovy, i kinuŭšy klič, što buduć zmahacca da apošniaj kapli kryvi, z nabožnymi słavami na vusnach zaŭziata vajujuć za volu i lepšuju dolu.

„Dziŭny heta kraj — piša Jerzy Przywieczerski, polski publicyst, u čas. „Podbipięta," ab Baskii — i dziŭnaja „čyrvonaja respublika," dzie spatkaŭ ksiandzoŭ jezuitaŭ i kamunistyčnych ahitataraŭ, dzie pobač narodnaha žaŭniera Baska, nosiačaha na mundziry znak svajho kraju — bieły i zialony kryž na čyrvonym poli, možam pabačyć razvydranuju anarchistku dziaŭčynu-žaŭnierku, dzie pobač kvatery anarchistaŭ, harać sotni śviečak unutry kaściołaŭ i pływuć molby da Boha ab zachavańnie niepieramožnaha Bilbao..." stalicy Baskii...

Tak, dziŭny heta kraj, ale moža dla taho tolki, chto nia maje i nie patrabuje mieć tuhi da niezaležnaści svajej Baćkaŭščyny... Nam, Biełarusam, jednaść Baskaŭ, ichnija zmahańni — bliskija i zrazumiełyja... Dy jak-ža cennyja i pavučajučyja...

Niepieramožnym-ža abaroncam Baskii niachaj budzie najvialikšaja češć i słava!

Niachaj spoŭniacca nacyjanalnyja imknieńni Baskaŭ jak najchutčej i najpamyśniej!

J. N.



**Малады Дубок**

* * *
(Эпіграма).

Ў гміну нейк заблукаў,
Там за стоража стаў.
Ўжо „ужэнднік“ — ён пан, —
Бо хлеб лёгкі дастаў.

Да яго бацька прыйшоў:
— „Як здароў, мой сынок!?“
— „Пайшоў вон!“ — адказаў,
„Чаму панам ня зваў?!“

Як прагналі адтуль,
Трэ' у хату вярнуць:
—„Пайшоў вон!“ — бацька ўміг
— „Бо ты пан, я мужык“.

**Пятро Вішня.**

# Вучыцеся-ж

*Тыдзень ліквідацыі няпісьменнасьці.*

I.

— Прыбегла вось да цябе, Кілінка, дый ня ведаю, як табе й сказаць... Ліст вось атрымала. Ад Андрэя, здаецца... Прачытай, Зязюлька, што там яно напісана...

Кіліна чытае:

„Любая мая, Сьцепаніданька! Ох-жа-ж і сумую я за табою, галубачка. Ох жа-ж і сумую. Як успомню, мая рыбачка, як гэта мы з табою пад вярбою, як станем дый цалуемся-цалуемся-цалуемся. Вось сяджу, ліст пішу, а губы самыя толькі цмок-цмок-цмок. А як прыходзіў я да цябе ў клуню. Месяц сьвеціць, зоркі зьзяюць. .

А я паціхеньку, паціхеньку, каб і ня хруснула...

Ды што ўжо мы наабыймаемся, што ўжо напрыхіляемся... І ніхто і ня ведае, што мы кахаемся. Вось, як скончу службу, на злосьць усім кулакам, ды капіталістам, прыеду і адразу ў З.А.Г.С.

Цалую цябе. Твой Андрэй Іванавіч Аброцька“.

Прачытала Кіліна Андрэяў ліст да Сьцепаніды...

Цешыцца Сьцепаніда: не забыў Андрэй.

А на другі дзень па вёсцы:

—Бач, якая сьвятая, ды божая.

— А з Андрэям пад вярбою.

— А ў клуні. Прыхіляемся, абыймаемся. Во якая.

А дома маці:

— Андрэя табе? У клуню табе? „Мне ў хаце, мама, душна, горача“.

Можа табе ў камсамол? У-у-у. Бясстыдніца ..

...Плача Сьцепаніда...

II.

Атрымаў Пятро ліст ад Марыны, што ў горад выехала...

— Прачытай, Іван, а то я ня ўтну...

Прачытаў Іван...

А на аругі дзень па вёсцы:

—А Пятро з Марынаю. Ой і хітры-ж. Калі-ж гэта яны пасьпелі?

Ды ўсе:

— Гу-гу-гу...

III.

Прынясьлі дзядзьку Сьпірыдону ўмову „пра арэнду“.

— Падпішыся.

— Няпісьменны.

— Стаў крыжыкі.

Наставіў.

А на другі дзень па вёсцы:

—Сьпірыдон ад жонкі адрокся.

Падпісаў бумагу, дзе напісана:

— „Ахвярую сваю адзіную жонку на царкву“.

Хлопцы пажартавалі...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Навошта-ж гэта ўсё?

Ды ўсё-ж на тое:

— І на ліха яна патрэбна гэта грамата, гэта пісьменнасьць?

*Пер. з укр. мовы Я. Хвораст.*

# Z KRAJU

## Nia treba biedavać, a treba pracavać.

Lachavičy, Baranavicki pav. U Baranavickim paviecie byli hurtki BIHiK i TBŠ, nažal, usie jany ŭžo źlikvidavany. U 1936 hodzie i raniej padavali ŭ nas deklaracyi na rodnuju biełaruskuju školu, ale vojty nidzie badaj nie paćvierdžali podpisaŭ baćkoŭ ci apiakunoŭ dziaciej. Zatoje ŭsiudy badaj polskija instruktary zakładajuć u nas „Koły Młodej Wsi", abo „Koły Stowarzyszenia Młodzieży Katolickiej". I treba skazać, što znachodziać jany achvotnikaŭ na siabroŭ ŭ hetyja „koły", bo moładzi niama dzie dziecca, a jana-ž choča źbiracca i pahulać. Praŭda, najbolš iduć tudy adzinki ciamniejšyja, abo kandydaty na pasady, ale zdarajucca vypadki, što papadajuć tudy i śviedamyja biełarusy.

Dla siabroŭ „Kołaŭ Młodej Vsi" časami ładziać niekulki-dniovyja kursy, na katorych mima ŭsialakaje polskaje prapahandy, jość časami i cikavyja lekcyi z haliny ziemlarobstva. Moładź adnak pačutaha ab ziemlarobstvie nie zavodzić u siabie doma na svaich haspadarkach, bo ŭvažaje, što toje, što jana čuła, tady joj prydasca, jak atrymaje dzie pasadu akonama ci pakajoŭki i takija kursanty ahułam doma ničoha rabić nia chočuć i stydajucca. A dziela taho „Koły Młodej Wsi" dla našaj vioski nijakaj karyści nie dajuć.

„Katolickie Stowarzyszenie Młodzieży", ab katorym biskup K. Niamira, vizytujučy ŭ nas kaścioły, miž inšym, skazaŭ, što ŭ im spravy nacyjanalnyja nie pavinny bracca pad uvahu, faktyčna viadzie najbolš polonizatarskuju rabotu, a kulturna-aśvietnaj pracy badaj-što nijakaj nie pravodzie.

Jak bačym, abiedźvie nazvanyja vyšej arhanizacyi pracujuć nie na našuju karyść. Ale nia možna nad hetym płakać, a treba pracavać, treba ich źbiełaruščvać i pry pomačy ich viaści biełaruskuju rabotu. Heta dumka była ŭžo nia raz abhavorvana na bačynach „Šlach Moładzi" i jaje jšče raz prypaminaju i zaklikaju da pracy. *Starejšy.*

## Палажэньне цяжкае.

Уселюб, Наваградзкі пав Кругом цемра і аж жудасна робіцца, калі падумаеш, колькі трэба ўзьняцца нам, каб ад карт і гарэлкі перайсьці да культурнага жыцьця. Больш сьведамыя адзінкі, як і пішучы гэтыя словы, пад дазорам паліцыі, якая вельмі часта вызывае іх да сябе, каб упэўніцца што робяць і пагавараць аб „камуністычнай рабоце". Газэт і кніжак вёска чытае агулам вельмі мала, бо ня мае скуль іх браць. А фактычна кніжак і газэт трэба на вёску як найбольш і то перадусім беларускіх, бо толькі роднае слова дзеіць на нашага чалавека і дае пажаданыя вынікі. Трэба аднак сьцьвердзіць, што цяжкае палажэньне змушае нашую моладзь ісьці, як кажуць, да галавы па розум, а гэта ўжо вялікая рэч.
*А. Д.*

---

**Alkahol i tytun rujnuje zdaroŭje i ščaście adzinki, siam'i i narodu.**

**Dobraja knižka i hazeta znajomić z śvietam i vučyć žyć kulturna.**

---

# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— Выехаў лячыцца. У нядзелю 4 г. м. ведамы беларускі дзеяч Кс. Ад. Станкевіч выехаў з Вільні ў Трускавец (Галіччына) лячыцца. Кс. Ад. Станкевіч ужо даўно цярпеў ад хворасьці нырак, апошнім-жа часам хвароба гэта на гэтулькі ўзмаглася, што змушаны быў часова перарваць сваю цэнную работу і згодна з радамі дахтароў выехаць на нейкі час у Трускавец, дзе знаходзяцца спэцыяльныя лячэбныя крыніцы. — Паважанаму Кс. Станкевічу жадаем хуткага выздараўленьня і павароту да працы.

Паважна так-жа занямог на грудзі ведамы беларускі каталіцкі пісьменьнік Кс. П. Татарыновіч, які на жаданьне лекараў 10 г. м. выехаў лячыцца ў Італію. Жадаем яму шчасьлівага павароту.

— Рэд. Я. Пазьняка звольнілі. Рэдактар Я. Пазьняк ад 27 лютага сёл. знаходзіўся пад паліцыйным надзорам. Суд анагдай гэты надзор зьняў.

— Вечар беларускай паэзіі. 18 г. м. ў Вільні у замкнёным крузе польскай інтэлігенцыі адбыўся вечар беларускай паэзіі. Сабраныя пазнаёміліся з найнавейшай паэзіяй М. Машары, М. Танка, Н. Арсеньневай і інш. Пасьля была дыскусія ў якой з польскага боку забіралі галасы ген. Жэлігоўскі, др. Выслаух і інш. Вершы беларускія, якія на прысутных зрабілі вельмі добрае ўражаньне, чытаў М. Танк.

— Беларускія песьні награмафонных плітах. Ведамы артыст сьпявак Міхал Забэйда насьпяваў анагдай у Варшаве на грамафонныя пліткі дзесяць беларускіх народных песьняў: А. Грэчанінава — 1. Ляціць сарока, 2. Конь бяжыць, 3. Ой рана куры запелі (калядная), 4. Ды шчука рыба ў моры (рэкруцкая); Туранкова — 5. Лявоніха (танец), 6. Ой памерла матулька, 7. Рабіна; Ст. Казуры — 8. Зялёны дубочак, 9. Чаму-ж мне ня пець? і М. Анцава — 10. А ў лесе (валачобная). Пліткі гэтыя хутка паявяцца ўжо ў продажы.

— Зьнялі канфіскату. Пастановай Віленскага Акружнога Суду з 18-га сакавіка сёл. зьнята канфіската аднаднёўкі „Беларуская Доля" (сакавік, 1937 г.), наложаная пісьмом Віленскага Гарадзкога Старастыз дн. 1 .III. 1937 г. Пасьля гэтага выйшаў другі наклад „Беларускай Долі". У аднаднёўцы гэтай апісана між іншым, як па спыненьні „Бел. Крыніцы" былі робленыя стараньні выдаваць новы беларускі тыднёвы часапіс і як да гэтага адносілася Віленскае Гарадзкое Стараства. Выдаўцом і рэдактарам аднаднёўкі зьяўляецца грам. Я. Ярмалковіч.

— На канцэрце сьляпых сьпевакоў 4 г. м. у Віленскім Унівэрсытэце хор пад кіраўніцтвам П. Родзевіча сьпяваў вельмі ўдачна так-жа і чатыры беларускія народныя песьні.

— Новыя кніжкі. У м-цы красавіку с. л. выйшлі з друку наступныя новыя беларускія кніжкі: 1. Ад. Станкевіча: „Mahnušeŭski—Paŭluk Bachrym—Babroŭski". Вільня, 1937. Бач 45, з ілюстрацыямі. Выданьне „Белпрэсу". Цана 50 гр. 2. М. Васілька: З сялянскіх ніў — зборнік вершаў, бач. 32. Вільня 1937. Выданьне Р. Шырмы. Цана 50 гр. 3. „Pieraškoda" — опэрэтка ў 3 актах. З мэлёдрамы І. Луцкага перарабіў М. Ш. Вільня 1937. Выданьне Беларускай Тэатральнай Кніжніцы. Бач. 66. Цана 1 зл. Шырэйшы агляд гэтых кніжак падамо пасьля.

— У беларускіх студэнтаў. 3 г. м. у Бел. Студ. Саюзе ў Вільні, студ. Р. Склубоўскі чытаў лекцыю на тэму: „Матарыялістычны і ідэалістычны сьветапагляд". — 17 г. м. там-жа адбыўся дыскусыйны вечар над адным з артыкулаў з часапісу „25 сакавіка".

11 красавіка сёл. ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віл.Унівэрсытэце др. Я. Станкевіч прачытаў лекцыю аб некаторых мамэнтах у гісторыі Беларусі. 21. г. м. „Беларусаведа" арганізавала экскурсію ў археолёгічны музэй і музэў іконаграфіі ў Вільні.

— Вакацыі вялікодныя ў Віленскай Беларускай Гімназіі трываць будуць ад 24.IV да 8.V.37.

# USIAČYNA

— „Dziennik Urzędowy" Krakaŭskaj Školnaj Kuratoryi, a za im hazeta „Polonia" i inš. nia tak daŭno padali miž inšym takuju viestku: „U Krakaŭskim vajavodztvie—biaz miesta Krakava — ščvierdžana 90 vypadkaŭ pierarvańnia ciažku ŭ vučanicaŭ 14—18 hadoŭ, pryčyńnikami čaho byli pieravažna tavaryšy-vučni, bolš-mienš u hetym samym vieku. Zaciemlena tak-ža 200 vypadkaŭ veneryčnych chvarobaŭ i kolkisot vypadkaŭ kražy"... „U Varšavie padobna ščvierdžana jašče horšy moralny stan školnaj moładzi"... Strašny i žutki heta abraz. I treba skazać, što ŭpadak moralnaści pašyrajecca i pa našych vioskach, dzie raniej hetaha nia było. Z padobnymi abjavami pavinny zmahacca nia tolki baćki i apiakuny, ale i sama moładź, katoraja ŭsio što niemoralnaje na kožnym miescy pavinna hanić i klajmić, bo inačaj kiepska budzie...

— Indyi (Azija) - vialikaj trystamilijonaj kalonii Anhlii, niadaŭna anhlijski ŭrad abvieściŭ novuju kanstytucyju, z jakoj indusy nie zhadžajucca, bo choćuć poŭnaj svabody i niezaležnaści. I dziela hetaha paŭstaŭ bunt nasielnictva, suproć jakoha anhlijcy vystupili z bambovymi samalotami i vialikimi vajennymi siłami. Baraćba adnak dalej idzie.

— U Japonii idzie da vajennaj dyktatury. Novy ŭrad, jaki vyrazna staić pa staranie armii, raźviazaŭ parlamant i prystupiŭ da arhanizavańnia ŭradavaje nacyjanalistyčnaje partyi. Viaścić heta, jasna, bolš zachopnickija imknieńni Japonii ŭ Kitai.



Japonski car Mikada na biełym kani.

— U Belhii, jak i ŭ inšych dziaržavach jość fašysty. Pavadyr ichni, małady, zdolny pramoŭca i palityk Degrell, abviaščaŭ davoli cikavuju prahramu i mieŭ davoli mnoha prychilnikaŭ. Z časam adnak vyjaviłasia, što maje jon suviazi z Hitleram i Musolinim. Dyk papularnaść jahonaja pačała padać, čaho dokazam jość apošnija dadatkovyja vybary ŭ Brukseli ŭ belhijski parlamant. Cikava adznačyć, što da vybaraŭ hetych pryčyniŭsia sam Degrell. I tut chacieŭ jon pakazać svajo „ja", vystaŭlajučy sam siabie jak kandydata ŭ pasły. Druhim, adnak kandydatam byŭ viedamy belhijski dziejač, demakrat, sučasny premjer belhijskaha ŭradu Van Zeeland i jon pieramoh, zdabyvajučy 276,000 hałasoŭ, majučy padtrymańnie ŭsich kirunkaŭ i ŭsich partyjaŭ. Degrell zdabyŭ usiaho 69,000 hałasoŭ. (U paraŭnańni z minułymi vybarami straciŭ jon 19,000 hałasoŭ). Za Van Zeeland'a hałasavali miž inšym i kataliki, bo prociŭ Degrell'a aficyjalna vystupiŭ biskup-prymas Belhii.

Kali-b Degrell byŭ u Polščy, dyk chiba adnosiny da jaho duchavienstva byli-b inšyja, mahčyma zusim advarotnyja... Hołas belhijskaha biskupa, jak i hołas Papieža, katory niadaŭna rašuča vystupiŭ suproć hitleryzmu i kamunizmu, śviedčać ab tym, što z katalickim duchavienstvam nia jość tak błaha, jak nam zdajecca, bačačy rabotu polskich endeckich ksiandzoŭ i niekatorych navat biełaruskich.

— Małaja Antanta (sajuz Čechasłavaččyny, Rumynii i Juhasłavii) raspadajecca, bo Juhasłavija pajšła na ŭhodu z Italijaj, što niepadabajecca Čechasłavaččynie i Rumynii, katoryja majuć sajuznyja dahavory z Francyjaj i Savietami.

— U Abisynii na vajskovy italijanski samalot, jaki lacieŭ z Uollega da Addis-Abeby, napała vialikaja ptuška sup. Latun pačaŭ na jaje stralać z kulamiotu i raniŭ, adnak ptuška paśpieła tak mocna ŭderyć dziubam u samalot, što prabiła jahonuju vierchniuju čašć i raniła latuna ŭ hałavu tak, što jon straciŭ prytomnašć, a samalot pačaŭ padać. Adnak tavaryš ranienaha latuna ŭ paru zatrymaŭ samalot i apuściŭsia pašla na ziamlu. Kali ranieny latun dajšoŭ da prytomnaści, pry pomačy miascovaha nasielnictva italijanskija vajaki pačali šukać henaje ptuški i znajšli, ale ŭžo niažyvuju. Kryły jaje mieli try z pałovaju metry šyryni, a dziuba była złamanaja ŭ časie napadu na samalot. Ptuška heta była ŭłasnaściaj adnaho z abisynskich kniazioŭ. Jana, jak bačym, kirujučysia samazachavaŭčym instynktam, baraniła svabody svajho kraju ad čužackich stalnych italijanskich „ptušak"-samalotaŭ...

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Maładniaku: Karespandencyju nia źmieścim, bo nie havorycie ŭ joj ab kankretnych faktach pieraškodaŭ.

P. Dyleŭskamu: Karespandencyju atrymali, vykarystajem.

A. Asoŭskamu: Vieršy słabyja i papravić ich ciažka. Radzim bolš čytać biełaruskija knižki i paznać lepš biełaruskuju hramatyku i pravapis.

S. Harotnamu: Vieršy atrymali, dziakujem, U mieru mahčymaści budziem drukavać.

M. V. ŭ Łatvii: Časapis Vam vysyłali i budziem vysyłać. „Uschod" pastarajemsia nadrukavać. Piśmo ŭ BNK pieradali. Pryvitańnie!

Я. Рамялёвічу. Вершы да друку не падходзяць. „Перад выездам у Латвію", паправіўшы надрукуем. Зьвярнеце ўвагу на папраўкі, старайцеся ляпей пазнаёміцца з беларускім правапісам і граматыкай. Пішыце, але толькі прозай і коратка.

М. Беразьню: Вершы слабыя; тэмы нярах банальныя, разьмер ня вытрыманы. Здаецца, што Вы маглі-б добра пісаць прозай.

Я. Ласю: Верш „Кавалю", паправіўшы, надрукуем. Іншыя слабей апрацаваныя.

М. Папоўскаму: Вершы слабыя, кульгае тэхніка і мова, ды і цэнзура іх не прапусьціць.

Пакрыўджаным: Карэспандэнцыю надрукуем у настыпным нумары. Прадстаўленьні радзім ладзіць перадусім выключна беларускія, калі-ж не даюць на іх, а так жа на прадстаўленьні беларуска-польскія, дазволу, дык зусім ня ладзьце, а культурна-асьветную працу праводзьце пры помачы беларускіх кніжак і часапісаў.

П. З: Фэльетон атрымалі, шчыра дзякуем, надрукуем у наступным нумары. Пісьмо перадалі. Прывітаньне!

А. Жуку: Верш „Вясна" мала розьніцца ад Вашых вершаў на гэту самую тэму, якія ўжо друкаваліся ў „Шл. Моладзі". „Паўказка" добрая, нажаль яшчэ слаба апрацаваная і лішне доўгая. Ляпей было-б яе напісаць прозай.

Г. Праменю: Верш „Дажджом", паправіўшы, надрукуем. Паэма „Рыгор Рыбак" не ўдалася — друкаваць яе нельга.

А. Дзіку: Вершы слабыя і не арыгінальныя. Тэмы, на якія пішаце, былі ўжо нярах апрацоўваныя; мова бедная, нястача вобразнасьці. Часта здаецца, што словы ў вершы стаяць толькі на тое, каб дапоўніць радок і закончыць яго рыфмай, а так быць ня можа; патрэбная лепшая апрацоўка. Карэспандэнцыю друкуем, за добрыя словы шчыра дзякуем. Просім не забываць.

П. Завеі: За падпіску, пажаданьні і рады шчыра дзякуем. Напішыце нам аб жыцьці моладзі ў вас.

Paviedamlajem, što ŭžo razyjšoŭsia ŭvieś nakład №№ 1 i 2 „Šl. Moładzi" za 1937 h. I tamu hetych numaroŭ bolš nia možam vysyłać.

## Krychu śmiechu

### U stałoŭcy

Hość u stałoŭcy paśla abiedu: — Panie haspadar, što vy robicie, jak hość nie zapłacić?

— Što maju rabić? Vykidaju jaho na złamańnie karku za dźviery!..

—Ooo! To, kali łaska, nie denervujciesia, ja ŭžo sam vyjdu.

### U škole

— Jak nazyvałasia žonka Abrahama — pytaje vučyciel vučnia.

— Nia znaju. Ja ŭ škole tolki ad viasiella ŭ Kanie Halilejskaj. Ale Janka znaje, bo jon tut ad Stvareńnia Śvietu.

—o—

*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК.